


№4






ОСТРАНДЭР
ДУУРСІМА
ПАРСАНС

# STAR WARS

## СВІТАНАК ДЖЭДАЯЎ: УРАГАН СІЛЫ

ЖАХІ БЕЗДАНІ!




ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ.
СВІТАНАК ДЖЭДАЯЎ:
УРАГАН СІЛЫ #4
ПЕРАКЛАД: COMICSBY
ПРЫ САДЗЕЙНІЧАННІ
SWCOMICS.RU


АКАР КЕШ.
ЗГОДНА АРХІЎНЫМ ЗАПІСАМ КАЛЕТА, БУРА ТАКОЙ МОЦЫ НА ТАЙТОНЕ БЫЛА ТОЛЬКІ АДНОЙЧЫ – У ДЗЕНЬ, КАЛІ НАШЫЯ ПРОДКІ СЫШЛІ НА ПЛАНЕТУ З ТО ЁРАЎ. ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ ГОД ТАМУ.

ЯК БЫЦЦАМ САМА СІЛА, ЯКАЯ НАС НАКІРОЎВАЕ, ВЫЙШЛА З РАЎНАВАГІ.
УСЕ ДЖЭДАЙІ ПАЧУЛІ СМЕРЦЬ ПАСЛЯ КРУШЭННЯ ІНШАПЛАНЕТНАГА КАРАБЛЯ. ТАКІМ ЖА МОЦНЫМ БЫЛО ПАЧУЦЦЁ ЎСЕРАЗБУРАЛЬНАЙ ЦЕМРЫ. МАЙСТАР КОРА, ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ПРЫЧЫНАЙ БУРЫ СТАЛА ПАДЗЕННЕ КАРАБЛЯ?


ТАК.





О, МАЙСТАР ЦЮАНЬ-ЯН ДАСЛАЎ ПАВЕДАМЛЕННЕ.
З-ЗА СІЛАВОГА ЎРАГАНА НАШЫЯ КАМЛІНКІ НЕ ПРАЦУЮЦЬ...
...АДНАК Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО МОЙ МАЛЕНЬКІ ДРОІД ДАБЯРЭЦЦА ДА ВАС, МАЙСТАР КЕТУ. ВЫ БЫЛІ ПРАВЫ – АД ІНШАПЛАНЕТНАГА КАРАБЛЯ ПРАКТЫЧНА НІЧОГА НЕ ЗАСТАЛОСЯ.
ЯГО РЭШТКІ ПРАНІЗАНЫ ЦЁМНЫМ БОКАМ СІЛЫ, І ЯНА НЕ РАССЕЙВАЦЦА. ДУМАЮ, ГЭТА ЯНА СПАРАДЖАЕ БУРУ.




ТАША?!
ВІДАЦЬ, ЯНЫ АДПРАВІЛІСЯ Ў БЕЗДАНЬ СЛЕДАМ ЗА НЕЗНАЁМЦАМ.
МАЙСТРЫ, СУСТРЭНЕМСЯ Ў ХРАМАХ. МЫ ПАВІННЫ ПРАВЕСЦІ СУМЕСНУЮ МЕДЫТАЦЫЮ І ПАСПРАБАВАЦЬ РАССЕЯЦЬ ЭНЕРГІЮ ЦЁМНАГА БОКУ... А З ЁЙ І БУРУ. ТРЭБА АДНАВІЦЬ РАЎНАВАГУ СІЛЫ...
...ПЕРАД ТЫМ, ЯК ТАЙТОН СТАНЕ НАШЫМ ВОРАГАМ.

У ГЛЫБІНЯХ БЕЗДАНІ РУ...

ДОБРА-ДОБРА. МЫ ПРОСТА НЕНАДОЎГА ЗАТРЫМАЕМСЯ ТАТ... ПАКУЛЬ НЕ СЦІШЫЦЦА БУРА. ТОЛЬКІ ПАКУЛЬ НЕ СЦІШЫЦЦА БУРА.

ЧУЕШ, ШЭЙ?

ЭНЕРГІЯ ТАЙТОНА – БЫЦЦАМ ЖЫВАЯ. ТАНЬЧЫЦЬ НА КОНЬЧЫКАХ ПАЛЬЦАЎ.

Я ЎПЕРШЫНЮ АДЧУЎ СЯБЕ ПА-САПРАЎДНАМУ ЖЫВЫМ...

МАЦІ? БАЦЬКА?

ШЭЙ... ДЗІЦЯЦІ...

МАЦІ, БАЦЬКА...

ВЫ...


VUUUUNNNNNN
...Я ЗАБ'Ю ВАС!


ХОПІЦЬ ГЭТАГА ДУРНОГА СУПЕРНІЦТВА! ПАКІНЬ ТАШУ Ў СУПАКОІ!
РРРР! АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ, ІДЫЁТ!
Я НЕ ПРА ПРЫНЦЭСУ! МАЕ БАЦЬКІ! ВУНЬ ТАМ!


ЗВАР'ЯЦЕЛА?
НЕ, ЯНЫ КІНУЛІ МЯНЕ!
ЯНЫ ПАМЕРЛІ СМЕРЦЮ АДВАЖНЫХ НА ВАЙНЕ З ЦІРАНКАЙ! У БРАМЫ КАЛЕТА АД РУКІ ХАЙДЗІ! ТЫ ТРЫЗНІШ!


ЯНЫ ПАМЕРЛІ ЯК ГЕРОІ! ІХ ІМЁНЫ НАЗАЎСЁДЫ ЗАСТАНУЦЦА Ў ГІСТОРЫІ! МОЖНА ТОЛЬКІ МАРЫЦЬ ПРА ТАКУЮ СМЕРЦЬ!
Я – МАРУ!
АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ, І Я ЗРАБЛЮ ТВАЮ МАРУ РЭАЛЬНАСЦЮ!
СЕК'НОС РАТ? ШЭЙ КОДА?


ДЗЕ ВЫ? ВАКОЛ ЦЕМРА, Я АДЧУВАЮ ТОЛЬКІ ЦЕМРУ, ПАГЛЫБЛЯЮСЯ Ў ЯЕ... ТАНУ...


Я ДАЧКА І ТАЙТОНА, І ЧЫКАГУ... І МАТКІ, І БАЦЬКІ... МНЕ НІКОЛІ НЕ АТРЫМАЦЬ УХВАЛЫ АБОДВУХ... НІ ВОДНАГА З ІХ. Я ЗВЯЗАНА ПАДВОЙНЫМ АБАВЯЗКАМ... І РАЗДЗІРАЮСЯ ПАПАЛАМ.

ТВАЕ ЗЕМЛЯКІ ПАЙШЛІ ЗА ХАЙДЗІЯЙ, ТВАРЫЛІ СМЕРЦЬ ДЗЕЛЯ ТАГО, КАБ СУЦЕШЫЦЬ ЯЕ АМБІЦЫІ!
ТАК... АЛЕ ЯНЫ НЕ ВЕДАЛІ ЯЕ...
МЯНЕ... НЕ ХВАЛЮЕ! ГЭТА ВЕДЗЬМА ЗАБІЛА МАІХ БАЦЬКОЎ!


ХАЙДЗІЯ ЗАБІЛА І МАІХ ДЗЯДУЛЮ З ДЗЯДЗЬКАЙ, ЯКІЯ АДМОВІЛІСЯ ПАДПАРАДКАВАЦЦА.


МЫ ЎСЕ Ў ЦЕМРЫ...












НЯМА НЕВУЦТВУ – ЁСЦЬ ВЕДЫ. НЯМА СТРАХУ – ЁСЦЬ МАГУТНАСЦЬ.

Я – СЭРЦА СІЛЫ. Я – ПУЦЯВОДНЫ АГОНЬ СВЯТЛА.

Я – ТАЯМНІЦТВА ЦЕМРЫ. У РАЎНАВАЗЕ З ХАОСАМ І ГАРМОНІЯЙ – БЕССМЯРОТНЫ Ў СІЛЕ.

ВОСЬ ТАК... ЛЕПШ. АДНАК КАЛІ БУРА ТАК ПАЎПЛЫВАЛА НА НАС, ТАДЫ ШТО З ЦЁМНЫМ ВОІНАМ? З ГЭТЫМ ЗЕШАМ? І ЯК НАМ ЦЯПЕР ЯГО ЗНАЙСЦІ?

ВЕЛЬМІ ПРОСТА. ЁН ТАМ, ДЗЕ ЦЯМНЕЙ ЗА ЎСЁ.


ВЫБУХ ЗНІШЧАЕ РАКАЦКІ КАРАБЕЛЬ-«ПАЖЫРАЛЬНІК». СМЯРОТНА ПАРАНЕНЫ «ЛЕВІАФАН» ПАДАЕ НА ПЛАНЕТУ, КАБ ЗАГІНУЦЬ У ВОГНІШЧЫ.

ЗАБЕЙЦЕ РАБОЎ! АЧЫСЦІЦЕ ШЛЯХ ДА ВЫРАТАВАЛЬНАЙ КАПСУЛЫ! І РАСТЛУМАЧЫЦЕ, ЯК ГЭТЫЯ ЖАЛАСНЫЯ ЖЫВЁЛЫ ПАШКОДЗІЛІ МОЙ КАРАБЕЛЬ?!
ГЭТА НЕ ЯНЫ, ПРЭДАР ТУЛ'КАР! І НЕ ВАРОЖЫ КАРАБЕЛЬ!


ЧАГО? ХТО? ХТО ЗАБІЎ МАІХ АХОЎНІКАЎ?!


АГРХК! АААА!
VUUUUN!


ЯНЫ ПАМЕРЛІ, ТАК І НЕ ЗРАЗУМЕЎШЫ, ХТО ІХ ЗАБІЎ.
ААААА!


АЛЕ ЁН ВЕДАЕ.

УСПАМІНЫ ПРА ПРАДСМЯРОТНЫХ КРЫКАХ ВЯРТАЮЦЬ ЗЕША ДА РЭАЛЬНАСЦІ. ЁН ЗАБІЎ СВАЙГО ПРЭДАРА. СВАЙГО ГАСПАДАРА.

НАВОШТА? ЁН НЕ ПАМЯТАЕ.

У СНЕ ЁН БЫЎ НА «ПАЖЫРАЛЬНІКУ» ДОМА

...У ЯКІМ ПАЖЫРАЦЬ БУДУЦЬ ЯГО САМОГА...

А ЗАРАЗ – У САМЫМ СЭРЦЫ КАШМАРА...

...ЗНУТРЫ.

SKRITCH

SKRITCH

SKRITCH









...АЛЕ І АД ТАГО, ШТО ХАВАЕЦЦА Ў ГЛЫБІНЯХ ЯГО ЗМАРНЕЛАГА РОЗУМУ.

ГЛУБІНЫ БЕЗДАНІ НАПОЎНЕНЫ ЭНЕРГІЯЙ ЦЁМНАГА БОКУ. ЦЕНІ АТРЫМОЎВАЮЦЬ АБРЫСЫ. ПАМЕРЛЫЯ НА «ПАЖЫРАЛЬНІКУ» ВЯРНУЛІСЯ ЗА ІМ...





З ВЫШЫНІ ЦЮАНЬ-ЯН ГЛЯДЗІЦЬ У САМАЕ СЭРЦА ЦЁМНАЙ БУРЫ.

ГЭТАЯ БУРА БЫЦЦАМ УЛОННЕ САМОЙ ПРОРВЫ! ХОУК РО АМАЛЬ ТАМ НЕ ЗГІНУЎ. А ДЭЙГЕН ЛОК ЗВАР'ЯЦЕЎ...

ТЫ БЫЎ МАІМ САМЫМ ПАСПЯХОВЫМ ВУЧНЕМ, ДЭЙГЕН. І Я НЕ ДАЗВОЛЮ, КАБ ГЭТА ПАЎТАРЫЛАСЯ. Я НЕ АДДАМ ШЭЙ КОДУ!

Я АДЧУВАЮ ЦЯБЕ, ШЭЙ, – ТЫ ЖЫВА... АХІНУТАЯ ЦЕМРАЙ, ПАГЫБЛЯЕШСЯ Ў ЦЯСНІНУ... У БЕЗДАНЬ РУ! БУДЗЬ АСЦЯРОЖНА, ДЗІЦЁ! Я РАСКАЗВАЎ ТАБЕ ПРА ГЭТА МЕСЦА...

ТЫ ПЕРАСЛЕДУЕШ НЕКАГА АБО ЦЯБЕ ВЯДЗЕ ЦЕМРА? Я АДЧУВАЮ ЯЕ... ДРЫЖЫКІ ВАР'ЯЦТВА, НІБЫ МАЛАНКІ ПАД СКУРАЙ.

ЛЯЦІ, ЗВЕР – ТАКАЯ МАЯ ВОЛЯ, ЛЯЦІ! Я ЗНАЙДУ ШЭЙ КОДУ!




СТОЙ!

ЦІШЭЙ. ЦІШЭЙ!

ПРАМА ЯК У БЫЛЫЯ ДОБРЫЯ ЧАСЫ, КАЛІ МЫ БЫЛІ ВАНДРОЎЦАМІ, РОРЫ. ТОЛЬКІ ТАДЫ ТЫ АБДЫМАЛА МЯНЕ КРАПЧЭЙ.


















АРЭНА НА БІСЕ.

У ТОЙ РАЗ ЯГО СУПЕРНІКАМ БЫЎ РАБ ПА ІМЕНІ ІСК. ПА ЧУТКАХ, ІСК БЫЎ АДНЫМ З ЛЕПШЫХ ШНЫПАРОЎ ПРЭДАРА СКЕЛ'НАСА.

ЯНЫ ЗМАГАЛІСЯ, КАБ ПАЦЕШЫЦЬ СВАІХ ГАСПАДАРОЎ – РАКАТ. ПРАВІЛЫ АРЭНЫ: НІЯКАЙ ЛІТАСЦІ, ВЫЖЫВАЕ МАЦНЕЙШЫ, БОЙ ДА СМЕРЦІ.


Я РЫХТАВАЎ ІСКА ДА БАЁЎ З САМАГА НАРАДЖЭННЯ, ТУЛ'КАР. УПЭЎНЕНЫ, ШТО ХОЧАШ ПРАЦЯГНУЦЬ БОЙ? ТЫ МОЖАШ ПАЗБАВІЦЦА ЗЕША, СВАЙГО КАШТОЎНАГА ШНЫПАРА.
ЗНАЧЫЦЬ, ЁН НЕ НАСТОЛЬКІ КАШТОЎНЫ, ПРЭДАР СКЕЛ'НАС. УВОГУЛЕ, Я НАВАТ ГАТОВЫ ПАДВОІЦЬ НАШЫЯ СТАЎКІ.


АРЭНА НА БІСЕ, АРЭНА Ў ЦЯСНІНЕ – РОЗНІЦЫ НЯМА.


СТАЎКІ ТАДЫ...


...НІЧЫМ НЕ АДРОЗНІВАЛІСЯ АД ЦЯПЕРАШНІХ.
ПЕРАМОГА АБО СМЕРЦЬ.


ВЫКАРЫСТОЎВАЙ
УСЁ, ШТО ПАД РУКОЙ.


БЕЙ БЕЗ СУМНЕВАЎ.
БЕЙ МАЦНЕЙ.


ТВОЙ ВОРАГ БУДЗЕ
РАБІЦЬ ТАК САМА.


БЕЙ, КАБ ВЫЖЫЦЬ.


SKREEEE


YIIIIIII!!


КАЛІ МОЖАШ – БЯГІ.


...КАЛІ ЛЁС ДАЕ ШАНЕЦ. КАЛІ НЕ...


...СУСТРЭНЬ ВОРАГА ТВАР ДА ТВАРА. ЗМАГАЙСЯ...


...ПАКУЛЬ...


...НЕ СКОНЧАЦЦА СІЛЫ.


KRAK!


ТЫ НЕ ПАМЫЛІЎСЯ, БРУДНАЯ КУЧА ЛАЙНА, ГЭТА Я КІНУЎ! І Ў МЯНЕ ЯШЧЭ ЦЭЛАЯ КУЧА КАМЯНЁЎ, КАБ КІДАЦЬ У ТВАЮ ДУРНУЮ БАШКУ! ПАГУЛЯЕМ?


GRAAARHHHR!
УХ... Я ПЫТАЮ... ПАГУЛЯЦЬ ХОЧАШ, ГЛІСТ?
ТАША! ШЭЙ! ХУТЧЭЙ! ЗАРАЗ!

KRAAAKOOM!
GRAHRRR!
ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ АДЦЯГНУЦЬ ЯГО ЎВАГУ, СЕК'НОС!










ВІДАЦЬ, ВЫ З МАЙСТРАМ ЦЮАНЬ-ЯНАМ СВЯДОМЫЯ Ў ТАКІХ РАЧАХ.

ЯК ЯГО ЗАБІЦЬ?

НІЯК. ЗВЫЧАЙНА АД ЯГО ЗАГІНАЮЦЬ.










СІЛАВЫ ШНЫПАР СПЫНЯЕЦЦА НА СКАЛЕ, АТРЫМЛІВАЮЧЫ АСАЛОДУ АД ЧЫРВОНАЙ ЦЕМРЫ СТРАХА ДЖЭ'ДАЙІ. АЛЕ ГНЕЎ ГОНІЦЬ ЯГО ЗАДАВАЛЬНЕННЕ.




ДАВАЙ ЖА, ПРАКЛЯТАЯ ПАЛКА! УКЛЮЧАЙСЯ! Я ЗАГАДВАЮ!


ЖАНЧЫНА! ДАЙ ЗБРОЮ МНЕ!
СІЛАВЫ МЕЧ НЕ ДЛЯ ЦЯБЕ! ТЫ НЕ ЗМОЖАШ ЯГО ЎКЛЮЧЫЦЬ!


ЯШЧЭ ЧАГО.


КІДАЙ, ШЭЙ! КАЛІ ТОЛЬКІ НЕ ПЛАНУЕШ ЗАБІЦЬ СААРЛА ДЗЯРЖАЛЬНЯЙ ДА СМЕРЦІ!


КАБ ВАС. ТРЫМАЙ!


ТНАК!

УВЕСЬ СВЕТ – БАРАЦЬБА. ПРАВІЛЫ АРЭНЫ ПРОСТЫЯ.

Я ЗДАЮСЯ СВАЙНУ СУПЕРНІКУ. Я ШУКАЎ ГОДНАЙ СМЕРЦІ. ПРАШУ ПАШКАДУЙ. ЗАБЕЙ МЯНЕ – Ў БАІ...













YUUUUUNNNNNN


ЗЕШ?


sssshhhssh


ЗЕШ?! ШТО ТЫ РОБІШ?! ПАМАЖЫ НАМ!


УВЕСЬ СВЕТ – БАРАЦЬБА. ПРАВІЛЫ АРЭНЫ ПРОСТЫЯ.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ...